*Беларусь выставілі з Савета Еўропы (стар. 2)*
*Параза дэмакратыі: прычыны і наступствы (стар. 4-5)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік і выдавец Павел Жук
Наклад 90.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

17 студзеня 1997 г. | № 4 | Кошт свабодны

## «Паплечнікаў» арыштоўваюць

**Старшыня праўлення Нацбанка Тамара Віннікава ў аўторак, 14 студзеня, была арыштаваная і дастаўленая ў следчы ізалятар КДБ.**



На Віннікаву Пракуратурай РБ заведзена крымінальная справа, ёй інкрымінуецца *«хищение в особо крупных размерах»*. Следства вядзе аб'яднаная следчая група КДБ, МУС і Пракуратуры.

Абвінавачванні тычаць да перыяду работы Тамары Віннікавай у «Беларусбанку». Кампрамат, на падставе якога яе арыштавалі, быў сабраны Службай кантролю прэзідэнта яшчэ да прызначэння Віннікавай на пост старшыні праўлення Нацбанка.

Па некаторых звестках, Віннікавай ставіцца ў віну перш за ўсё сумнеўныя здзелкі па прыцягненні грашовых рэсурсаў у «Беларусбанк» у 1995 г., калі банк знаходзіўся ў даволі складаным фінансавым становішчы. Абвінавачванні таксама могуць тычыцца выдачы вялікіх сум крэдытаў фірмам, блізкім да сп. Шаткіна (намесніка Віннікавай на пасту кіраўніка «Беларусбанка»). Пытанні можа выклікаць і будаўніцтва банкам двух корпусаў ва Уруччы і будынка на праспекце Дзяржынскага. Заказчыкам корпусаў ва Уруччы выступала блізкая да Шаткіна фірма «Энергия», падрадчыкам — адна з ізраільскіх фірмаў, фінансаваў усё АКБ «Беларусбанк».

Ходзяць таксама чуткі, што нядаўні скачок курса долара на наяўным рынку да 30—35 тыс. рублёў у пэўнай ступені можа быць звязаны з арыштам старшыні Нацбанка Віннікавай. Не выключана, што курсу долара «дапамаглі» ўзляцець, каб напярэдадні запланаванага арышту скампраметаваць Віннікаву ў вачах народа і выставіць Лукашэнку ў прывабным выглядзе. Цалкам магчыма, што банкі, якія валодаюць буйнымі рэсурсамі, па просьбе чалавека, якому яны не маглі адказаць, штучна «загналі» курс на такую вышыню. Заадно ўсім, хто ведаў пра гэтую аперацыю, надарылася магчымасць добра зарабіць. Аднак доўга завышаны курс не пратрымаўся б, што і адбылося. Засталося толькі справай тэхнікі своечасова арыштаваць Віннікаву.

Ясна, што гэтым арыштам Лукашэнка таксама хоча паказаць, як ён можа распраўіцца з любым чыноўнікам, а заадно і народ парадаваць.

**Ян БАНКІН**




## Акцыі пратэсту каля расійскага пасольства

**Ужо некалькі дзён каля пасольства Расіі ў Мінску актывісты БНФ і іншых дэмакратычных партый выстаўляюць пікет пратэсту.**

Акцыі праводзяцца ў адказ на вядомае пасланне Барыса Ельцына Аляксандру Лукашэнку, у якім расійскі прэзідэнт прапанаваў правесці рэферэндум па аб'яднанні дзвюх дзяржаваў.

У мінулы аўторак каля расійскага пасольства пікетчыкі трымалі плакаты з надпісамі: *«Хотите как лучше? Получите как всегда!»*, *«Расія абламала зубы аб Чачню і Беларуссю падавіцца!»*, *«Беларусь — партызанскі край!»*, *«Б.Ельцын! Забірай Лукашэнку і карчуй сваю Сібір. Беларусь не аддадзім!»* Адказнасць за правядзенне акцыі ўзяў на сябе в.а.старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі, на якога міліцыянты спачатку склалі пратакол *«за арганізацыю несанкцыянаванага пікета»*, а пасля даставілі ў пракуратуру Цэнтральнага раёна, адкуль Баршчэўскага ўсё ж выпусцілі прыкладна праз гадзіну.

Спадар Баршчэўскі пракаменціраваў ельцынскае пасланне наступным чынам: *«Расія імкнецца на беларускім фронце ўзяць рэванш за паразу ў Чачні, а таксама напалохаць краіны Захада ў сувязі з пашырэннем NATO. Але дарэмна Крэмль спадзяецца, што ў яго гэта атрымаецца. Як казаў Чарнамырдзін: «Хотелось как лучше, а получилось как всегда». Для Расіі інтэграцыйныя гульні могуць скончыцца распадам самой РФ. Народны фронт прааналізуе сітуацыю і будзе рыхтавацца да выхаду на вуліцы»*.

У сераду, 15 студзеня, каля расійскага пасольства зноў з'явіліся пікетчыкі. Міліцыянты выглядалі больш падрыхтаванымі. Праз гукаўзмацняльную апаратуру яны заклікалі ўдзельнікаў пікету *«не парушаць грамадскі парадак і разысціся»*. А сярод пікетчыкаў пастаянна знаходзілася каля дзесятка асоб у цывільным. Пасля заканчэння акцыі яе ўдзельнікі арганізавана рушылі ў бок вул.Варвашэні, дзе знаходзіцца штаб-кватэра БНФ. Агенты неадступна ішлі за імі. Каля рэстарана «Белая вежа» аператыўнікі паспрабавалі ўпіхнуць аднаго мужчыну ў машыну (дзяржнумар МИД 1590), але не атрымалася — пікетчыкі літаральна вырвалі яго з рук «ахоўнікаў парадку».

Потым на працягу яшчэ некалькіх гадзін міліцыянты ў цывільным блакіравалі штаб-кватэру БНФ, у якой знаходзілася частка пікетчыкаў і журналісты. Былі спробы схапіць жанчыну, якая выходзіла з памяшкання штаб-кватэры, а таксама журналіста БелаПАН Генадзя Барбарыча і адказнага за арганізацыю пікета былога дэпутата Вярхоўнага Савета Сяргея Папкова, які да позняга вечара быў вымушаны знаходзіцца ў штаб-кватэры.

Каля станцыі метро «Плошча Я.Коласа» міліцэйскім агентам удалося схапіць двух удзельнікаў пікета і яшчэ аднаго чалавека, які ў акцыі не ўдзельнічаў. Усіх адвезлі ў Цэнтральны райаддзел міліцыі, дзе па відэазапісу ідэнтыфікавалі двух пікетчыкаў. Абодвух іх адвезлі ў суд Цэнтральнага раёна, які пакараў іх штрафамі ў памеры 200 і 500 тысяч рублёў, трэці хлопец быў выпушчаны на свабоду.

Учора пікетаванне пасольства працягвалася. З самай раніцы каля штаб-кватэры БНФ дзяжурылі людзі ў цывільным.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Беларуская карта

*Ініцыятыву Ельцына ўспрынялі ў Мінску без энтузіязму*

У Беларусі рэакцыя на ельцынскія прапановы была даволі стрыманай, прычым як з боку апазіцыі, так і афіцыйных уладаў.

Тон сціплым ацэнкам задаў прэзідэнт **А.Лукашэнка**, які абмежаваўся канстатацыяй свайго душэўнага стану: *«Я вельмі шчаслівы і задаволены»*, — паведаміў ён журналістам, якіх дапусцілі да яго падчас «інаўгурацыі» самаробнага беларускага сената. Лукашэнка не ўпусціў моманту адзначыць, што гэта ён першы запусціў махавік аб'яднання, аднак па ягоным выглядзе было бачна, што на самой справе беларускі прэзідэнт цяжка перажывае той факт, што ў яго перахопліваюць палітычную ініцыятыву.

Паплечнікі беларускага прэзідэнта, раздаючы каментары на тую ж тэму, выказваліся на дзіва сінхронна са сваім шэфам. Прэс-сакратар **Валерый Талкачоў** нагадаў журналістам ранейшыя беларускія ініцыятывы, якія *«пасляхова развівае Барыс Ельцын»*. А дарадца **Сяргей Посахаў** нават выказаў здзіўленне, што падняўся такі шум вакол ельцынскага паслання. Па ягоных словах, яно ўсяго толькі развівае далей працэс, які пачаўся пасля стварэння супольніцтва Беларусі і Расіі, і якое, між іншым, *«узначальвае прэзідэнт Лукашэнка»*. Як заўсёды добра зразумеўшы, у які бок трэба гнаць прапагандысцкую хвалю, прэзідэнцкая «Советская Белоруссия» на наступны дзень падказала афіцыйнай уладзе ёмістую фармуліроўку ініцыятывы расійскага кіраўніцтва — *«сенсацыі не адбылося»*. Пагадзіцеся, адзнака на мяжы паміж ветлівасцю і хамствам, калі ўлічыць, што ацэньваюцца дзеянні не якіх-небудзь натаўскіх стратэгаў, а свайго лепшага сябра і партнёра, да якога Беларусь сама ж лезе пад коўдру.

Не дзіва, што кіраўнікі беларускай апазіцыі, каментуючы ельцынскія прапановы, улічвалі і рэакцыю на іх нашага кіруючага істэблішмента. Адзін з лідэраў Народнага фронту **Юры Хадыка** ў сваім каментары СВАБОДЗЕ адзначыў, што беларускі прэзідэнт сутыкнуўся з такім жа бессаромным папулізмам, майстрам якога сам з'яўляецца. *«У Расіі вырашылі, што прыйшоў час разыграць беларускую карту, хопіць, маўляў, каб толькі Лукашэнка разыгрываў расійскую»*, — іранізуе Ю.Хадыка. Як вельмі небяспечны факт Хадыка ацэньвае тое, што разменнай манетай у палітычных гульнях нядобрасумленных палітыкаў становіцца незалежнасць Беларусі. На ягоную думку, прапанаваны план інтэграцыі цалкам адпавядае звычайнаму аншлюсу. А ў такім выпадку, лічыць Хадыка, трэба рыхтавацца да абароны незалежнасці любымі сродкамі.

*(Працяг на стар. 2)*

## Шарэцкі за інтэграцыю па-еўрапейску

**Старшыня Вярхоўнага Савета С.Шарэцкі ў інтэрв'ю карэспандэнту СВАБОДЫ выказаў сваё стаўленне да паслання Ельцына аб «паглыбленні інтэграцыі» Беларусі і Расіі.**

На думку Шарэцкага, існуе рашэнне Вярхоўнага Савета аб інтэграцыі, якое з'яўляецца ўзважаным і абгрунтаваным — і ніякіх рэферэндумаў больш не трэба. С.Шарэцкі падкрэсліў, што з'яўляецца прыхільнікам інтэграцыі з Расіяй, аднак ён лічыць, што прыкладам інтэграцыі для СНД павінен стаць Еўрапейскі Саюз, у межах якога цалкам захоўваецца суверэнітэт усіх дзяржаваў, якія ў яго ўваходзяць.

Трэба, каб гэтаксама было і ў стасунках Беларусі з Расіяй — Беларусь павінна выступаць як раўнапраўны партнёр, як дзяржава, якая зыходзіць са сваіх інтарэсаў і развівае ўзаемавыгадныя сяброўскія адносіны з суседняй краінай. Аб'яднання ж у той ці іншай форме ў адзіную дзяржаву з Расіяй С.Шарэцкі не падтрымлівае. *«Няўжо мы таксама хочам, каб у нас па 5—6 месяцаў не плацілі зарплату? Мы таксама хочам, каб нашыя хлопцы гінулі ў Чачні ці ў іншых «гарачых кропках»? Ці хочам мы ўвязвацца ў якія яшчэ авантуры разам з Расіяй, калі яна іх учыніць?»* — задае рытарычныя пытанні С.Шарэцкі.

Адказваючы на пытанне, навошта Ельцын у такім спешным парадку вырашыў ініцыяваць аб'яднанне, С.Шарэцкі назваў некалькі прычынаў. Па-першае, *«у Расіі пачалі паднімаць гоман, калі прэзідэнт прыступіць да работы»*, і ён вырашыў праявіць актыўнасць у напрамку, які выклікае станоўчае ўспрыманне. У якасці іншых чыннікаў С.Шарэцкі назваў *«адрыжку на пашырэнне NATO»*, а таксама той факт, што Чачня фактычна выйшла са складу Расіі, таму ў якасці кампенсацыі трэба паказаць, што да Расіі нехта хоча далучыцца. У якасці ж галоўнай прычыны старшыня ВС прывёў наступную: *«Я думаю, і адзін, і другі прэзідэнты пачалі задумвацца, да чаго яны прывялі свае краіны. Вынікі дзейнасці абодвух несуцяшальныя, і прэзідэнты хочуць адцягнуць ад гэтых вынікаў увагу грамадзян»*.

С.Шарэцкі выказаў сумненне ў тым, што план з аб'яднаннем будзе рэальна праводзіцца ў жыццё — хутчэй за ўсё, ён застанецца на ўзроўні прапагандысцкага хода.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## Еўрапарламент піша Шарэцкаму

**У Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь паступіла пасланне з Еўрапарламента.**

Ліст, адрасаваны на імя спікера ВС С.Шарэцкага, падпісала член Еўрапейскага Парламента, старшыня дэлегацыі па сувязях з Беларуссю, Украінай і Малдовай пані Элізабет Шродтэр. У лісце, у прыватнасці, адзначаецца, што Еўрапарламент *«выказвае салідарнасць з усімі дэмакратамі Беларусі, якія ў гэтыя дні падвяргаюцца праследаванням»*, а таксама выказваецца *«ўпэўненасць, што дзеянні Лукашэнкі выклічуць актыўнае процідзеянне народа Беларусі»*.

**Б.П.**

## МЗС: «Караул устал»

**Як паведамілі СВАБОДЗЕ ў міністэрстве замежных справаў, экс-міністра Уладзіміра Сянько збіраюцца накіраваць паслом у Парыж, а першага намесніка міністра Валерыя Цэпкалу паслом у Вашынгтон.**

На абодвух дыпламатаў у гэтыя краіны ўжо накіраваны агрэман, але адказу беларускі бок пакуль не атрымаў. (Цяпер паслом Беларусі ў Францыі з'яўляецца Ніна Мазай, а паслом у ЗША Сяргей Мартынаў.)

Кадравыя перамены ў знешнепалітычным ведамстве прымеркаваныя да калегіі з удзелам прэзідэнта Лукашэнкі, якая прызначаная на 21 студзеня. Нікога не здзівіў трыумфальны ўзлёт былога камуністычнага функцыянера 60-гадовага Івана Антановіча, які на прэс-канферэнцыі назваў кардынальныя службовыя перастаноўкі ў МЗС *«нормальной сменой дипломатического караула»*. Антановіч заявіў, што ягоны былы шэф *«гатовы выканаць дзяржаўную місію на часова правaленым участку работы»*, а Валерыю Цэпкалу *«не будзе цаны»*, калі ён папрацуе дыпламатам у іншай краіне.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Беларуская карта

(Пачатак на стар. 1)

Лідэр Партыі камуністаў **Васіль Новікаў** падзяляе меркаванне, што ельцынская «прапазіцыя» — чарговае палітычнае шоў, разлічанае на задураных афіцыйнай прапагандай жыхароў Расіі і Беларусі, якім падсоўваюць замест хлеба пусты фанцік ад цукеркі. Віцэ-спікер Вярхоўнага Савета звяртае ўвагу на той факт, што ў бюджэтах абедзвюх краін, якія якраз цяпер зацвярджаюцца, не выдзелена ні капейкі грошай на аб'яднаўчыя працэсы. *«Як Лукашэнку нішто не перашкаджаў працаваць над выратаваннем беларускай эканомікі, але ён нічога не зрабіў карыснага, так і з інтэграцыяй Расіі і Беларусі — ёсць усе ўмовы інтэграваца, але яны не выкарыстоўваюцца»*, — упэўнены Васіль Новікаў. Ён нагадвае, што Вярхоўным Саветам яшчэ год таму былі зацверджаны пазіцыі, з якіх нельга саступаць: сувэрэнітэт, незалежнасць, дзяржаўная цэласнасць і неўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы. Іншыя ж сферы для інтэграцыі адкрытыя: эканоміка, адукацыя, культура. Але замест рэальных крокаў зноў пачынаецца прапагандысцкая шуміха, якая толькі перашкаджае рэальнаму збліжэнню народаў, бо непазбежна пачнецца расчараванне такой «дружбай», сцвярджае лідэр беларускіх камуністаў.

**Генадзь Карпенка**, каментуючы інтэграцыйны план расійскага прэзідэнта, назваў яго фактычным умяшальніцтвам ва ўнутраныя справы Беларусі і непрыкрытым замахам на яе незалежнасць. Прапановы аб'ядаць грашовыя сістэмы, стварыць наднацыянальны ўрад ды іншыя «інтэграцыйныя» навацыі Карпенка лічыць супярэчным нават лукашэнкаўскай канстытуцыі, не тое што Асноўнаму закону 1994 года. На думку віцэ-спікера ВС, прэзідэнт павінен будзе несці адказнасць за свае антыканстытуцыйныя дзеянні і апраўданнем для яго не могуць быць ніякія рэферэндумы — ні мінулыя, ні наступныя.

Дарэчы, усе апазіцыйныя палітыкі, чые меркаванні тут прыведзеныя, пагадзіліся з тым, што ельцынскія прапановы разлічаны не толькі на ўнутраны, але і на знешні эфект — гэта спроба адказаць на пашырэнне *NATO* на ўсход, запалохаць Захад прывідам былога СССР. Між тым такая пагроза падаецца бессэнсоўнай. На думку беларускіх апазіцыянераў, аб'яднанне паўгалоднай Расіі з галоднай Беларуссю толькі мацней падштурхне краіны Усходняй Еўропы пад парасон Паўночна-Атлантычнага альянсу.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**




# Беларусь выставілі з Савета Еўропы

**13 студзеня бюро Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ) прыпыніла на нявызначаны тэрмін статус Беларусі як спецыяльна запрошанай. Старэйшая і найбольш уплывовая арганізацыя на кантыненце, якая аб'ядноўвае 40 краінаў, не прызнае незаконны рэферэндум і нелегітымны парламент Беларусі. Аўтарытарны рэжым Лукашэнкі апынуўся ў ізаляцыі.**

Пра магчымасць такіх наступстваў прэзідэнт Парламенцкай Асамблеі Лені Фішэр папярэджвала беларускія ўлады яшчэ да рэферэндуму. Дзеля таго, каб разабрацца ў сітуацыі на месцы, яна наведала Мінск. Праўда, прэзідэнт Лукашэнка, адчуваючы, што пахне паленым, адмовіўся ад запланаванай раней сустрэчы з Лені Фішэр і правёў час на футбольным полі. Як кроплі на гарачы камень упалі заклікі дэлегацыі Савета Еўропы, якая пабывала ў Мінску ўжо пасля рэферэндуму. Еўрапейскія парламентарыі так і не дачакаліся ад прэзідэнта Лукашэнкі *«павагі да парламенцкай дэмакратыі і верхавенства закона»*. Затым палітычны камітэт ПАСЕ, засядаючы ў Лондане, вырашыў прыпыніць статус спецыяльна запрошанай Беларусі ў гэтай еўрапейскай арганізацыі. Апраўданні дыктатарскага рэжыму Лукашэнкі з вуснаў блізкага паплечніка Юрыя Малумава выглядалі па меншай меры адыёзнымі. На бюро ПАСЕ сабраліся толькі пастаянныя члены гэтай арганізацыі, якія пацвердзілі рашэнне палітычнага камітэта ПАСЕ. Свае слова скажа і Парламенцкая Асамблея, на якую збяруцца ў канцы студзеня больш за 500 дэпутатаў нацыянальных парламентаў еўрапейскіх краінаў.

Старшыня Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы Лені Фішэр звярнула ўвагу на тое, што *«новая канстытуцыя ў Беларусі незаконная і не адпавядае мінімальным дэмакратычным стандартам»*. Галоўнымі ж практычнымі задачамі Савета Еўропы з'яўляюцца абарона парламенцкай дэмакратыі, правоў чалавека, верхавенства закона. Усе гэтыя прынцыпы аказаліся ўзурпаванымі прэзідэнтам Лукашэнкам. Пра якую парламенцкую дэмакратыю можа ісці гаворка, калі ніводзін дэпутат апазіцыі не ўвайшоў у склад новага «парламента» і ён сфармаваны выключна з верных лукашэнкаўцаў.

Савет Еўропы прынцыпова ставіцца да абароны дэмакратыі. Расія, якая была прынятая ў Савет Еўропы напачатку 1996 г., вымушаная была чакаць сваёй чаргі больш за год з-за крывавай вайны ў Чачні. Па прычыне недастатковай дэмакратычнасці і падтрымкі вайны ў Босніі з Савета Еўропы ў 1992 г. выключылі Югаславію. Цяпер такі ж незайздросны лёс напаткаў і Беларусь.

Каментуючы рашэнне бюро ПАСЕ, новапрызначаны міністр замежных справаў Беларусі **Іван Антановіч** сказаў журналістам на прэс-канферэнцыі, што *«ніякіх акцый ізаляцыі не адбылося. Бюро ПАСЕ прыняло рэкамендацыю аб прыпыненні членства ў якасці спецыяльна запрошанай — і кропка. Гэтае прыпыненне зроблена для далейшага высвятлення сітуацыі»*. Па словах І.Антановіча, падобная гісторыя была з Польшчай, калі Лех Валэнса распусціў сваім дэкрэтам Сейм. Праўда, польскі прыклад выглядаў прыцягнутым за вушы. Далей І.Антановіч кінуўся ў прапагандысцкую камуністычную патэтыку і, вядома, ад імя народа заявіў, што *«толькі народ Беларусі будзе вызначаць ад гэтага часу і навекі, па якой канстытуцыі яму жыць! Мы не пацерпім ніякага ўмяшання ў наш канстытуцыйны працэс! Мы нікому не абавязаныя тлумачыць, чаму мы гэта зрабілі!»* Можна не сумнявацца, што і міністэрства замежных справаў адрэагуе такой жа патэтычнай заявай на рашэнне бюро ПАСЕ.

Але наколькі правільна разглядаць рашэнне Савета Еўропы «ўмяшаннем». Яшчэ з 1993 г. Беларусь сама прасіцца прыняць яе ў СЕ, а ў чужы дом са сваімі правіламі нішто не прыходзіць. Антановіч хоча, каб *«нехта адзін галасаваў голасам Беларусі ў Савеце Еўропы»*. Няцяжка здагадацца, пра чый голас ідзе гаворка.

Былы намеснік міністра замежных спраў **Андрэй Саннікаў** сказаў у інтэрв'ю карэспандэнту СВАБОДЫ, што *«нашае знаходжанне ў Савеце Еўропы залежыць ад нас саміх, а не ад Захада. Мы не хочам прымаць цывілізаваных правілаў паводзін, але з намі нішто не будзе гуляць па нашых правілах. Гэта самаізаляцыя. Цяперашняе непрызнанне парламента звалілася не з неба. Пра гэта папярэджвалі да 24 лістапада сур'ёзныя міжнародныя структуры і асобныя краіны. Прама было ўказана, што міжнародная супольнасць (асабліва еўрапейская) не зможа прызнаць вынікаў рэферэндуму»*.

Андрэй Саннікаў заўсёды адносіўся да ліку прыхільнікаў ізаляцыі Беларусі нават у самых складаных сітуацыях. Але зараз, па словах Саннікава, *«ізаляцыя непазбежная. Калі дзяржструктуры Захада не прызнаюць афіцыйныя структуры Беларусі, то няшмат знойдзецца рызыкоўных людзей, якія будуць інвеставаць у нашую краіну, рызыкуючы сваімі грашыма, рэсурсамі, каб падтрымліваць беларускую эканоміку, якая разбураецца. Што тут падтрымліваць?»*

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

# Будзе яшчэ адна марка

**Начальнік пашпартна-візавай службы міністэрства ўнутраных справаў Сяргей Стэсік на сустрэчы з журналістамі заявіў, што ўвядзенне спецыяльнай маркі для выездаў за мяжу не парушыць правоў грамадзянаў. Той, хто ўжо мае штамп у пашпарце, не абавязаны ўклейваць марку.**

Як ужо паведамлялася ў прэсе, згодна з рашэннем беларускага ўрада з 1 чэрвеня гэтага года для часовага выезду за мяжу (альбо на пастаяннае месца жыхарства) трэба ўклеіць у пашпарт спецыяльную марку. Натуральна, любыя перамены ў працэдуры афармлення выезду выклікаюць праблемы. Калі ў другой палове 1993 года пачалі ставіць штампы «для шматразовых выездаў», шкада было глядзець на нашых грамадзянаў, якія знемагалі ў чэргах у аддзелах віз і рэгістрацый. Цяпер штамп вырашылі замяніць маркай.

С.Стэсік лічыць, што пашпарт з маркай будзе выглядаць больш цывілізавана і дазволіць пазбегнуць падробак. Па дадзеных памежных войскаў, у 1995 годзе праз межы Беларусі пагранічнікі не прапусцілі 29 тысяч чалавек (каля паловы з іх мелі фальшывы штамп), а ў мінулым годзе з падробленым штампам затрымалі каля 10 тысяч грамадзянаў. У выніку бюджэту нанесены ўрон прыкладна на 5 мільярдаў рублёў.

Марка будзе сапраўднай (як і цяперашні штамп) на працягу пяці гадоў для часовага выезду і адзін год для выезду на пастаяннае месца жыхарства. Як будзе выглядаць марка — пакуль невядома, але, па словах С.Стэсіка, *«яна будзе мець 15 ступеняў абароны. Клейкая аснова такая, што яе паўторнае выкарыстанне немагчымае»*. Друкаваць марку плануецца на беларускім прадпрыемстве «Паліфакт».

Сітуацыя ўскладняецца тым, што на руках у грамадзянаў застаюцца сотні тысяч чырвоных пашпартоў для выезду за мяжу, у якіх прастаўленыя штампы да 2001 года. Пашпартна-візавая служба не ў сілах пераафармiць такую масу пашпартоў у кароткі тэрмін. Стэсік супакойвае грамадзян, якія маюць штамп у пашпарце, што ім не давядзецца ўклейваць марку. Аднак, на думку пашпартна-візавай службы, лепей было б наогул не ўводзіць марку да тэрміну заканчэння дзеяння чырвонага СССРаўскага пашпарта (да 2002 года), інакш і ў памежнікаў узнікне яшчэ большая блытаніна. Сяргей Стэсік так уяўляе гэтую сітуацыю: *«Мы прыязджаем на мяжу, і пагранічнікі пачынаюць шалець, што сёння сапраўднае — штамп ці марка?»* Аднак міністэрства ўнутраных справаў павінна выконваць распараджэнні ўрада і накіраваць прапановы наконт спецыяльнай маркі.




Што мог бы зрабіць беларускі ўрад для таго, каб аблегчыць выезд грамадзян за мяжу, дык гэта панізіць дзяржаўную пошліну. Цяпер за адзін год дзеяння штампа трэба заплаціць адну мінімальную зарплату (за 5 гадоў — 650 тысяч рублёў). Не кожнаму грамадзяніну пад сілу дастаць з кішэні адразу 5 мінімальных, таму даводзіцца афармляць выезд на год-два і потым зноў траціць час на падаўжэнне тэрміну. С.Стэсік лічыць, што неабходна разглядаць пытанне аб памяншэнні памеру пошліны. Але гэтую праблему можа вырашыць толькі ўрад. Памер дзяржпошліны, па словах Стэсіка, *«залежыць ад эканомікі нашай дзяржавы»*.

Сабекошт маркі будзе 7—12 тысяч рублёў, але пакуль невядома, колькі давядзецца плаціць за яе грамадзянам.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

*ЗДАРЭННІ*

## Замах на суддзю

**Старшыню Брэсцкага раённага суда Таісію Зубко «хуткая дапамога» адвезла ў рэанімацыю з колатай ранай прама з рабочага кабінета.**

Параніў суддзю 44-гадовы беспрацоўны Валашко. Здарылася гэта ў мінулы панядзелак падчас прыёму грамадзянаў, які праводзіла старшыня райсуда. Валашко, які прыйшоў на прыём, пачуўшы ад суддзі, што ягоная заява не можа быць прынятая да разгляду, накінуўся на Т.Зубко і пырнуў яе шылам, а сакратарцы пырснуў у твар з газавага балончыка.

Міліцыя затрымала злачынцу. Як высветлілася, ён знаходзіўся на ўліку ў псіхдыспансеры.

**Валодзя ЯНЧУК**

## Атэла з пісталетам

**Узброены пісталетам п'яны жыхар Клічава ўварваўся ў памяшканне мясцовага аддзела сацыяльнай абароны насельніцтва.**

У гэты момант у пакоі знаходзілася каля 10 супрацоўніц аддзела, але галоўная ўвага 40-гадовага бандыта была накіравана да адной з іх — былой жонкі (яны разведзеныя ў 1992 г.). Размахваючы зброяй, злачынец пачаў абвінавачваць жанчыну ў нявернасці. Тым часам адной супрацоўніцы ўдалося неўпрыкмет выйсці з пакоя і выклікаць міліцыю.

Пры затрыманні няўдалы Атэла стрэліў у аднаго з міліцыянтаў і быў сам паранены. А дзвюх жанчын у шокавым стане адвезлі ў бальніцу. Цяпер іх здароўю нічога не пагражае.

**Іван ЗАСАДА**

## Патоп у музеі

**Пятнаццаць абразоў XVII–XIX ст., драўляныя Царскія Вароты XVII ст., каштоўны крыж XVIII ст. былі моцна пашкоджаныя ў выніку аварыі сістэмы ацяплення ў Магілёўскім краязнаўчым музеі.**

Калі ў цепласетцы ў чарговы раз павысілі напор, батарэі не вытрымалі. Выбух быў такі моцны, што паваліў шафу з кнігамі. Вада лілася амаль 10 гадзін, пранікла ва ўсе пакоі і на паверхі музея. На месца аварыі прыехала міліцыя, калі вадой замкнула сігналізацыю і яна спрацавала. Кіпень змыў амаль усю пазалоту з Царскіх Варотаў, пашкоджаныя абразы «Ілля Прарок», «Тройца», а таксама і старажытны крыж.

Дырэктар музея Віктар Аненкаў лічыць, што ніхто канкрэтна ў тым, што адбылося, не вінаваты. Маўляў, прычына ў моцных маразах. Як заўжды...

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Дзіка, але факт

**Днямі ў Віцебску забілі злодзея па мянушцы «Ганс», які прамышляў на гарадскіх могілках.**

Смяротны прысуд яму вынеслі людзі на месцы злачынства. Цела злодзея знайшлі сярод магіл, з якіх ён скраў кветкі і вазу. Дзіка, але факт.

Тым часам у Віцебску ідзе паказальны працэс яшчэ над адным рабаўнікам магілаў. Яго злавіла міліцыя, калі ён нёс на спіне скрадзены надмагільны помнік.

**Барыс ХОЛАД**

## Маскоўскі браканьер

**Жыхара Масквы Н., супрацоўніка расійскай фірмы «Інвестбудпраект», чакае суд.**

Ён абвінавачваецца ў тым, што падстрэліў у Дзятлаўскім раёне двух лебедзяў (як вядома, гэтая птушка занесена ў Чырвоную кнігу). За браканьерства ён ужо заплаціў 5 млн. рублёў штрафу. Цяпер масквіч яшчэ будзе пакараны судом у адміністрацыйным парадку.

**Алесь КАСТРАВІЦКІ**

# Многія пратэстанты яшчэ ў падполлі

Прачытаў я ў СВАБОДЗЕ № 2 артыкул Віталя Цыганкова «Рэлігійная палітыка ці палітычная рэлігія?». У цэлым добры аналітычны матэрыял.

Я сам — вернік. Я веру ў Ісуса Хрыста. Я веру, што Ісус Хрыстос — гэта спрадвечны Бог, які нарадзіўся на зямлі і стаўся чалавекам, атрымаў цела, як і ўсе мы, людзі. Быццам бы ў гэтай маёй веры няма нічога дзіўнага. Цяпер, як слушна пісаў Віталь, амаль усе называюць сябе вернікамі. Мяркую, што некаму будзе цікава даведацца пра меркаванні верніка па азначанай праблеме.

Крыху пра сябе, каб мяне лепш зразумелі. Раней я быў звычайны атэіст, неваяўнічы. З гэтым ясна — школа, выхаванне. Але вось ужо прыкладна гадоў з пяць я веру ў Бога. За гэты час у сваім развіцці як вернік я прайшоў доўгі (хаця і кароткі з увагі на час) шлях. Былі сумненні, развагі. Цяпер мая вера ў Ісуса Хрыста значна ўзмацнілася, і я пачаў прыходзіць да глыбіні разумення духоўнага. Карацей кажучы — раней я верыў розумам, а цяпер — сэрцам (гэта, канечне, не значыць, што ў мяне паменела розуму).

Наведваю я Беларускую Эвангельскую Царкву. Гэта — адна з плыняў пратэстантызму, да таго ж, што для мяне вельмі істотна, — беларускамоўная. Так што, можна сказаць, я — пратэстант. Я нікога не хачу прыніжаць: ні рымскіх каталікоў, ні праваслаўных. А ўніятаў я паважаю і маю асаблівую сімпатыю да гэтае канфесіі.

Віталь Цыганкоў піша, што «ўнутраная пабудова пратэстанцкіх рэлігійных грамадаў фактычна не адрозніваецца ад праваслаўнай...» Вось з гэтай тэзай я катэгарычна не згодны. Штошто, а ўнутраная пабудова істотна адрозніваецца. Па-першае, няма ў сучасных пратэстантаў (баптыстаў, пяцідзесятнікаў ці іншых) падзелу на клір і прыхаджанаў. Пратэстанцкія царквы — больш дэмакратычныя. Практычна кожны пратэстант можа прапаведаваць (чытаць казань), праводзіць набажэнства.

Па-другое, няма жорсткае іерархічнае структуры царкоўнага кіраўніцтва, і кожная пратэстанцкая царква — аўтаномная.

Калі Віталь Цыганкоў прыводзіць статыстыку, то і тут ён, бадай, не зусім дакладны (хаця яго асноўныя думкі і высновы, я лічу, адлюстроўваюць сапраўдны стан рэчаў). І не таму недакладны, што звесткі старыя. Справа ў тым, што ён мог не ведаць некаторых рэчаў. Напрыклад, не ўсе пратэстанцкія цэрквы пайшлі на дзяржаўную рэгістрацыю; яны і дагэтуль існуюць напаўпадпольна, не прызнаюць дзяржаву. У савецкія часы рэгістравацца — гэта значыла прызнаць уладу дзяржавы над царквой. Гэта значыла, што на набажэнствах з'яўляўся агент дзяржаўна-камуністычнай машыны — «упаўнаважаны», як яго называлі. (Гэта акрамя мноства тайных агентаў.) І дагэтуль шмат цэркваў знаходзіцца ў падполлі, хаця дзяржава ўжо не ціснe так, як раней. Я думаю, што прыкладна 30—40% пратэстантаў яшчэ знаходзяцца ў падполлі.

Зрэшты, шмат пераследаванняў перажылі шчырыя вернікі ўсіх канфесіяў: у турмах побач сядзелі і ксяндзы, і праваслаўныя манахі, і баптысты.

Мне даводзіцца шмат размаўляць з рознымі людзьмі. І вельмі часта людзі падкрэсліваюць крывадушнасць уладаў, калі гаворка ідзе пра масавае наведванне нашымі кіраўнікамі цэркваў. Гэтага схаваць нельга. Гэта разумеюць усе. Але я, напрыклад, вітаю, калі «ўладары» ходзяць у царкву, нават з рэкламнымі мэтамі. Ну а дзе ж ім яшчэ розуму набрацца? Гэта хоць нейкая надзея на тое, што яны пакаюцца.

Мне неяк расказалі пра такі выпадак. У адным месцы людзі выгналі з царквы былога камуністычнага боса. Вельмі абураліся: маўляў, раней забараняў, прапаведваў атэізм, а цяпер, калі вецер у іншы бок падзьмуў, то ў царкву пабег. Людцы, не трэба гэтак! Майце літасць да гэтых. Ім трэба пакаяцца. Сапраўдныя вернікі гэта ведаюць. І яны выступаюць за аддзяленне царквы ад дзяржавы і дзяржавы ад царквы. Бо Царства Божае — не ад свету гэтага. Вера патрэбная для выратавання душы. Мэта веры — за небакраем, у свеце няўбачным, духоўным. Царква, якая імкнецца да багацця, славы, улады ў гэтым свеце, — ілжывая царква. Але ў кожнай канфесіі ёсць сапраўдныя вернікі, якія праз веру ў Ісуса Хрыста ўратуюцца самі і ўратуюць іншых.

**Андрусь ДЫЛЮК,**
*г.Мінск*

*Два лісты на адну тэму*

# КВН-96: чаму прайгралі студэнты з Мінска

Фінальная сустрэча ў КВН беларускіх студэнтаў з Мінска і дагестанскіх студэнтаў з Махачкалы закончылася перамогай каманды Дагестана. Здавалася б, рэплікай «перамог дужэйшы» можна было б паставіць кропку. Але ўсё ж — чаму прайгралі студэнты з Мінска?

Нашыя студэнты ў тых практыкаваннях, якія насілі агульны характар (музычны конкурс і да т.п.), выказалі сябе не горш за дагестанцаў. А вось там, дзе трэба было паказаць сваю адметнасць (напрыклад, конкурс капітанаў пра «правілы добрага тону»), дык нашыя студэнты былі зусім бездапаможныя. Як дасціпна можна было б правесці конкурс капітанаў ці падрыхтаваць хатняе заданне, калі б нашыя студэнты ведалі гісторыю, культуру, звычаі нашых продкаў, якія бывалі раней 1917 года. Напрыклад, кніга Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня», якую параўноўваюць з сусветна вядомым казачным эпасам «Тысяча і адна ноч», магла б стаць выдатным матэрыялам па «правілах добрага тону». А захапляльная гісторыя Саламеі Пільштыновай «Авантуры майго жыцця» дала б аснову для бліскучага музычнага конкурсу.

Але ўсяго гэтага нашыя студэнты, відавочна, не ведалі і не знайшлі нічога лепшага, як перайсці на тупаваты салдафонскі гумар. Зрэшты, што можна прыдумаць лепшага ў краіне, дзе нават кіраўнікі самага высокага рангу становяцца «ва фрунт» і бяруць пад казырок пры паяўленні любой морды (нават чорнай) з «саседняга, — як кажа самы галоўны, — усем нам раднова гасударства».

Падобна, што хлопцы з Махачкалы гэта добра ведаюць, таму яны не ўпусцілі магчымасці пакпіць і напомніць, хто ёсць хто. На пытанне, чаму беларусы не плацяць за энергарэсурсы, — вясёлыя хлопцы з Махачкалы адказалі: «Яны ніколі не плацяць». Яны нас лічаць за тых, хто не мае магчымасці заплаціць, за тых, чые душа і цела належаць «хазяіну», за тых, хто не мае нічога свайго. Незалежны чалавек — свабодны чалавек, а свабода — гэта ў тым ліку і магчымасць плаціць. Мы ж можам расплаціцца хіба толькі сваёй шкурай і гарматным мясам. Вось пра што нагадалі мне вясёлыя хлопцы з Махачкалы.

Нездарма ў нашага Леаніда-капітана вырвалася, што яму хацелася б жыць на Каўказе. Там, на Каўказе, паветра пахне свабодай, у адрозненне ад нашага паветра — са смуродам рабскай залежнасці і пакорнасці.

**Яўген ЛІТВІН,**
*Мінскі р-н*

# Кесару – кесарава, а слесару ...

У мінулагоднім турніры вясёлых і знаходлівых каманда Беларускага дзяржаўнага універсітэта была вельмі блізкая да перамогі. Па ходзе фінальнай гульні адчувалася выразная перавага беларусаў. Але... Але ўсё сапсаваў капітан каманды — сваім салдафонскім «гумарам».

У Беларусі ўжо трэці год трымаецца рэжым дыктатуры, адбываецца страшэнны ўціск правоў і свабод чалавека. Каму ж як не студэнтам — маладым, гордым, дасціпным — падняць голас пратэсту — хоць бы і ў такой форме, як гульня вясёлых і знаходлівых? Дык жа не!

Ні журы, ні гледачы ў зале і каля тэлеэкранаў не пачулі ад беларускай каманды ні сказа ці нават слова ў абарону ўласнага гонару і годнасці. Не дачакаліся. Нават калі капітан махачкалінцаў перадаў ініцыятыву ў рукі капітана сапернікаў, сказаўшы: «Лёня, я ніколі не сумняваўся ў тваёй акадэмічнай адукаванасці. Раскажы яшчэ што-небудзь!», дык той Лёня выдаў зусім не вясёлае(!) і ўсім вядомае: «Однажды в студеную зимнюю пору...»

Калі ўжо Лёня так любіць фантазіі на тэму рускай класікі — няхай бы расказаў пра Луку Мудзішчава. Упэўнены, гэтым ён абавязкова здабыў бы бал, такі неабходны беларускім студэнтам для перамогі.

Так здарылася, што ў фінале сустрэліся каманды свабодалюбівага Каўказа і баязліва-рабалепнай Беларусі. Перамог мацнейшы. Усё, як гаворыцца, заканамерна: кесару — кесарава, а слесару — ...

**Мікола ЯЎМЕНЕНКА,**
*в.Чудзенічы, Лагойскі р-н*

# Мы снова боимся

При Лукашенко в наши души вселился страх: страх потерять работу, страх не получить вовремя зарплату и пенсию, страх очередного повышения цен, страх предпринимателя за свое дело, страх выйти вечером на улицу, страх ростовщичества и даже — самое ужасное — страх родить ребенка...

Хочется, чтобы каждый человек, независимо от занимаемой должности и политического статуса, помнил мудрость древнегреческих философов: *«Если твое мнение отличается от моего, то это еще не значит, что ты заблуждаешься; может быть, ты подходишь к истине с другой стороны и видишь ее другую часть».*

**Марина ФЕДОСЕНКО,**
*руководитель предприятия, г.Могилев*




# Не втягивайте церковь в политические игры

На одном «большом собрании» высший иерарх православной церкви Беларуси митрополит Филарет огласил и призвал в своем выступлении следовать словам из послания апостола Павла к римлянам: *«Всякая душа да будет покорна высшим властям; ибо нет власти не от Бога; существующие же власти от Бога установлены»* (Рим. 13,1).

Подобное изречение требует более подробной трактовки. Обратимся к источникам по толкованию Священного писания (Толковая Библия).

Апостол Павел здесь не говорит, как должен поступать христианин при смене властей после борьбы между ними, когда идет противостояние. Он устанавливает только принцип гражданской жизни: Апостол Павел говорит о власти с точки зрения «идеала».

Повиноваться властям необходимо не только из страха наказания со стороны Бога, но и по нравственным побуждениям — по совести, или ради Господа. Отсюда ясно, что если христианская совесть (имея в виду ясно выраженную волю Христову) противится исполнению требований власти, идущих против этой совести, то христианин обязан повиноваться прежде голосу совести, чем требованию власти. Апостол устанавливает здесь известное право суждения о действиях власти. Он и сам показывает пример такого отношения к действиям властей.

Господь заповедовал: *«Отдайте Кесарево Кесарю, а Божие Богу»* (Мф. 22,21). Посему, если они приказывают что-либо противное установлению Божию, им не надо повиноваться. Так же заповедовал Христос; то же заповедывает и ученик Его.

Не только начальников, но и всех почитайте, братство любите, Бога бойтесь, царя чтите яко свободные. Эти слова Иоанн Златоуст объясняет так: покоряйтесь как свободные. Свободен в Господе тот, кто не подчиняется никому безнравственному. Жить лицемерно свойственно не свободному, а тому, кто в рабстве страстей. Так что сказанное митрополитом имеет вот такой смысл.

На «втором собрании» при подписании президентом конституции Филарет сказал, что православная церковь Беларуси одобрила и поддержала конституцию президента Лукашенко на референдуме. Пожалуйста, говорите от себя лично, но не от имени православной церкви и православных верующих. Не все так считают, как Вы. И не втягивайте церковь в свои политические игры. Затем митрополит благословил новую конституцию, тем самым благословил диктатуру, насилие, что противоречит канонам церкви. И неужели не понятно, что власти используют церковь для достижения своих целей и нужна церковь властям будет до тех пор, пока будет нужна. Отче! прости им; ибо не знают, что делают (Лк. 23,34).

**Л.П.САМУСЕВИЧ,**
*г.Крупки, Минская обл.*

# Народ заговорил о вредительстве

У нас в Орше за несколько дней до Нового года исчезло из магазинов мясо, сливочное масло, яйца. В магазине для инвалидов войны опять была предновогодняя выдача «пайков», о которых мы уже успели забыть. Оршанский мясокомбинат перестал работать до 13-го января. Остается только гадать: то ли карточки опять введут, то ли повышение цен предвидится, то ли опять наступает время дефицита продуктов... Тем временем цены на базаре подскочили в несколько раз, никаким добавкам к пенсиям за этими ценами не угнаться.

Но есть вещи еще страшнее этого: народ заговорил о вредительстве. Мне пришлось слышать, как в одном из заводских магазинов покупатели хором утверждали, что отсутствие продуктов — это вредительство каких-то сил по отношению к президенту Лукашенко. Такие же разговоры я слышала в магазине для инвалидов. А до этого я лечилась в госпитале в Юрцево. Инвалиды войны настроены против мифических сил, мешающих президенту навести порядок. Они (вернее, многие из них) готовы хоть сейчас расстреливать «врагов народа».

Во время войны я служила в батальоне, почти сплошь состоящем из белорусов. Это были отличные ребята. Но теперь я не верю в разговоры о «памяркоўнасці» белорусского народа. Президент Лукашенко сумел сыграть на самых низменных чувствах людей: злобе, зависти, ненависти. И теперь опирается на эти чувства. Вспомните его постоянные поиски врагов, мешающих ему осчастливить народ: БНФ, Верховный Совет один и другой, Богданкевич, Шарецкий, независимая пресса, коммерсанты и т.д. Ослепленный и озлобленный люмпен (мне трудно назвать его народом) при всем при этом не замечает патологического стремления к власти, полного неумения руководить экономикой, лживости и безнравственности своего любимого президента. А может, замечает и приветствует все эти качества?

Я убеждена, что в результате мутной волны поиска врагов, поднятой президентом, многие в Беларуси готовы приветствовать и нарушения прав человека, и даже массовые аресты и расстрелы. Я помню 1937 год. Помню, как исчезали люди без суда и следствия, как воздух был пропитан страхом. Любой мог ждать незаконного ареста. Народ разделился на стукачей, доносчиков, палачей и их жертвы. Утверждаю, что одним из преступлений президента является создание готовности к этому в Беларуси. Боюсь, что когда экономику Беларуси постигнет полный крах (а к этому все идет), то в Беларуси начнутся репрессии.

**Л.Г.КОХАНСКАЯ,**
*учительница-пенсионерка, ветеран войны, г.Орша*

